**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 48 (921) 30 лістапада 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У Глыбокім 26 лістапада ў сяброўскім коле адбылася прэзентацыя кнігі палітыка і актывіста беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Паўла Севярынца "Беларусалім".**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



## Браслаўскі раён

# Расце попыт на кансервы

■ Станіслаў Раманчук

**Каб устойліва развівацца, любому вытворцу ў наш час патрэбна ўкладваць значныя сродкі ў абнаўленне тэхналогій і тэхнічнае перааснашчэнне.**

Па такім шляху імкнецца ісці і Глыбоцкі МКК, які толькі ў Браславе мае два свае філіялы. У азёрным краі акрамя сырзавода працуе і яго дачэрняе прадпрыемства "Браслаўрыба", на якім занята звыш 160 работнікаў. У гэтым годзе там завяршылі значны інвестыцыйны праект, устанавілі 7 аўтаклаваў, новы аўтаматызаваны модуль мыцця і сушкі бляшанак, абнавілі склады гатовай прадукцыі і лабараторыю. Быў завершаны таксама рамонт асноўных цэхаў, заменена халадзільнае абсталяванне, з'явіліся новыя сучасныя лініі па выпуску рыбных кансерваў. Не дзіўна, што такія станоўчыя змены заўважылі і спажыўцы, попыт на прадукцыю браслаўчан стаў расці. У студзені-кастрычніку "Браслаўрыба" прадала сёлета айчынным гандлёвым сеткам амаль 1800 тон розных рыбных кансерваў. Апроч традыцыйнай прадукцыі з марскіх рыб разышліся кансервы з беларускім карпам, шчупаком і карасём. Тэхнолагі гэтага філіяла ў Браславе распрацавалі даволі ўдала рэцэпт прыгатавання мясцовых шпротаў. На ўра ў пакупнікоў за выдатны смак пайшла і навінка - "хамса ў таматным соусе". Яе пробныя партыі паспяхова распрадалі, паступіла шмат новых заявак. Усяго ж браслаўчане распрацавалі ўжо каля сарака найменняў сваіх рыбных кансерваў, а калектыў набліжаецца да таго, што рыбзавод будзе неўзабаве сертыфікаваны міжнароднай сістэмай якасці сваёй прадукцыі.

## Полацкі раён

# У сталіцу з вецярком

■ Чэслаў Якубовіч.

**У наступным 2018 годзе статысячны Наваполацк стане культурнай сталіцай Беларусі. Нафтаград прызналі адным з лепшых гарадоў абласнога падпарадкавання краіны, ён адзначыць хутка і свой 60-гадовы юбілей.**

Малады горад імкліва расце, ён фактычна ўжо амаль злучыўся з суседнім старажытным Полацкам. У мясцовым дзяржаўным універсітэце зараз навучаецца звыш 14 тысяч студэнтаў, каля трэці насельніцтва – моладзь. Зыходзячы з падобных фактараў Беларуская чыгунка зрабіла жыхарам Полаччыны свой падарунак. З нядзелі 10 снежня сюды запускаюць новы хуткасны цягнік ліній бізнес-класу па маршруце "Мінск-Полацк-Мінск". Для пасажыраў найбольш зручна, што шлях у дарозе ў беларускую сталіцу кароткі, займае ўсяго 3,5 гадзіны. Да таго ж яны будуць ездзіць на новых сучасных дызель-цягніках вытворчасці Польшчы. Такія элегантныя паязды PESA ДПЗ ужо даставілі пасажыраў са сталіцы ў Нацыянальны аэрапорт. Новы хуткасны цягнік у свой першы рэйс адправіцца менавіта з Полацка ў Мінск у 06,19 гадзіны раніцы. У беларускую сталіцу ён прыбудзе ў 09,57, а ў зваротны шлях паедзе ў той жа дзень вечарам у 17 гадзін 28 мінут. У далейшым гэты маршрут стане рэгулярным і штодзённым. На ўсім шляху ў сталіцу прадугледжаны ўсяго чатыры прыпынкі ў Круляўшчызне (07.24), Параф'янаве (07.41) Вілейцы (08.17) і Маладзечне (08.34). Паміж Мінскам і Полацкам у адваротны бок прадугледжаны таксама толькі чатыры гэтыя прыпынкі, а ў самы старажытны горад краіны пасажыры будуць прыязджаць штодзень у 9 гадзін вечара. Раней дарога ў сталіцу на цягніках была значна больш працяглай, а на дызелях праз Маладзечна і далей на электрычцы на Мінск займала амаль паўдня.

## Пастаўскі раён

# Вяртанне з небыцця

■ Кастусь Александровіч

**Роўна 100 гадоў таму назад скончылася І Сусветная вайна, якая шмат бедаў і пакут прынесла і беларускаму народу.**

У той час у Пастаўскім раёне амаль два гады знаходзілася лінія фронту, гэты райцэнтр пераходзіў з рук у рукі варагуючых бакоў, людзі ўцякалі ад бомб і снарадаў, пакутвалі ад бясконцых рэквізіцый на патрэбы армій. Падчас жорскіх баёў па ліквідацыі Свянцянскага прарыву, а потым у ходзе няўдалай Нарачанскай наступальнай аперацыі рускіх загінулі больш сотні тысяч салдат і афіцэраў з абодвух бакоў. Дагэтуль на Пастаўшчыне застаюцца забытыя воінскія пахаванні і сёлета восенню цэлы месяц у раёне працавалі воіны 52-га асобнага пошукавага батальёна Міністэрства абароны Беларусі на трох аб'ектах. Ім на дапамогу прыйшлі мясцовыя хлопцы з валанцёрскага руху "Заходні рубеж" пад кіраўніцтвам Андрэя Мацура. У выніку праведзеных работ сумесна ўдалося паблізу вёскі Цёплыя знайсці невядомае пахаванне сямі воінаў Рускай царскай арміі. Там у зямлі захаваліся нават дэталі ваеннай формы, гузікі з какардамі. Крыху пазней астанкі гэтых салдат перазахавалі на новых гарадскіх могілках, дзе адведзена спецыяльнае месца для ўшанавання памяці ахвяр той крывапралітнай і ў многім забытай вайны. Добра, што ў раёне такая патрэбная праца праводзіцца, там ёсць шмат нераўнадушных да сваёй гісторыі людзей. У філіяле раённага краязнаўчага музея ў Палацы Тызенгаўза створана найлепшая ў вобласці экспазіцыя, прысвечаная малавядомым падзеям пачатку мінулага стагоддзя. У будучым годзе пошукавы батальён прадоўжыць сваю працу і даследуе месцы магчымых пахаванняў каля яшчэ чатырох вёсак раёна.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.11.17 | | | | Пятніца 01.12.17 | | | | Субота 02.12.17 | | | | Нядзеля 03.12.17 | | | | Пн.04. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +1 | +1 | +1 | +1 | +4 | +2 | +1 | +1 | +1 | +2 | +1 | +1 | 0 | +1 | 0 | 0 |
| Ціск | 744 | 744 | 744 | 741 | 736 | 735 | 738 | 741 | 743 | 745 | 749 | 752 | 753 | 752 | 750 | 747 | 745 |
| Вецер м/сек | 5 Пд | 5 Пд | 5 Пд-У | 8 Пд-У | 8 Пд-У | 6 Пд | 7 Пд | 8 Пд | 8 Пд | 8 Пд-З | 7 Пд-З | 4 Пд-З | 2 Пд | 2 У | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 1 З |
| Вільготнасць | 92 | 94 | 93 | 89 | 97 | 96 | 80 | 78 | 83 | 91 | 87 | 91 | 96 | 95 | 89 | 94 | 96 |

# Аб самым надзённым

## ПРАДСТАЯЧЫЯ, ПЕРАВАЖНА БЕЗАЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ ВЫБАРЫ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ МАЛА ЦІКАВЯЦЬ БЕЛАРУСАЎ, ЛЮДЗЕЙ ХВАЛЮЮЦЬ ЗУСІМ ІНШЫЯ ПЫТАННІ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Характэрна, што з самага пачатку ЦВК Беларусі не чакае вялікай актыўнасці як саміх выбаршчыкаў, так і апазіцыйных палітычных партый. Беларускі лідар рыхтаваць адначасова з мясцовымі выбарамі правядзенне яшчэ і рэферэндуму не даручыў. Але Л. Ярмошына не выключыла прызначэнне ў апошні момант такога плебісцыту грамадзян.**

Цяперашні час вельмі хуткаплынны, вось і да канца гэтага года засталіся ўжо лічаныя тыдні. Аднак сёлета напрыканцы восені стабільны дагэтуль курс долара ў Беларусі пераадолеў псіхалагічны рубеж у 2 рублі. Паралельна з гэтым у нашых суседзяў і асноўных гандлёвых партнёраў пачаў даволі моцна слабець расійскі рубель і стала зразумела, што і беларусам будзе цяжка ўтрымаць далей прымальны абменны курс нацвалюты. Не будзе нічога дзіўнага, калі ў канцы снежня яе курс можа вырасці да 2,1 – 2,2 рубля за долар. З іншага боку – гэта добра, бо падаражэе айчынная экспартная прадукцыя, вырастуць даходы нашых прадпрыемстваў-экспарцёраў, а з імі і адлічэнні ў дзяржбюджэт.

На гэта паўплывала тое, што наша краіна сёлета павялічыла экспарт беларускіх тавараў і паслуг амаль на 20 %, але знізіла пастаўкі ежы на расійскі рынак. Таксама стала вядома, што ў Сусветную гандлёвую арганізацыю мы ўступім не раней за 2019 год. А вось нядаўняе рашэнне главы дзяржавы аб правядзенні ў нядзелю 18 лютага наступнага года новых выбараў у мясцовыя Саветы 28-га склікання было прадказальным. Гэты тэрмін у Цэнтрвыбаркаме называлі самым зручным, яго падтрымаў і А. Лукашэнка. Спраўдзіліся і прагнозы палітолагаў аб тым, што наступныя прэзідэнцкія і парламенцкія выбары ў 2020 годзе не будуць праводзіцца адначасова. Гэту кампанію развядуць па часе правядзення і, верагодна, парламентарыям прыйдзецца скласці свае паўнамоцтвы раней.

Выбары ж пярвічнага ўзроўню, ужо відавочна, што яны нічым асаблівым не будуць адрозніваца ад папярэдніх дружных галасаванняў у глыбінцы 23 сакавіка 2014 года. Ніякіх змен у выбарчае заканадаўства не ўносілася, усё пройдзе па даўно адпрацаваным сцэнарыі. Але не выключаецца, што на месцах у дэпутаты могуць прайсці і некалькі дзясяткаў прадстаўнікоў апазіцыі з умеранымі поглядамі. Хай сабе яны працуюць на карысць мясцовага насельніцтва, паспрабуюць вырашаць іх няпростыя надзённыя праблемы. Да мясцовага самакіравання мы толькі думаем падысці, а рэальна Саветы дэпутатаў у грамадстве маюць не надта вялікую палітычную вагу, бо рэальная ўлада на месцах знаходзіцца ў руках правячай "вертыкалі".

Лідзія Ярмошына прапанавала кіраўніку Беларусі кардынальна ліквідаваць сельскія Саветы дэпутатаў. Глаў мясцовых выканкамаў на месцах ў такім выпадку жыхары будуць выбіраць на прамых выбарах. Да гэтай ініцыятывы, як паведамілі СМІ, А. Лукашэнка аднёсся станоўча. Аднак такія змены ў перспектыве адбудуцца, бо неабходна ўнесці падобныя карэктывы ў дзеючае заканадаўства аб мясцовай уладзе. Дарэчы, у большасці дзяржаў кантынента глаў мясцовых адміністрацый, мэраў гарадоў людзі выбіраюць непасрэдна, а хто выконвае свае абавязкі дрэнна, на паўторны тэрмін рызыкуе не прайсці. Пакуль жа ў сельскай мясцовасці ў большасці з 13 тысяч акруг будзе па адным кандыдаце на месца дэпутата.

З 10 снежня па 8 студзеня ўключна, пройдзе вылучэнне прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат. Яшчэ 10 наступных дней адводзіцца на іх рэгістрацыю, пасля чаго можна будзе кандыдам у дэпутаты весці агітацыю. У мінулым дзяржава выдзяляла на гэта сродкі, а цяпер усе траты кладуцца на плечы жадаючых "засвяціцца" пры ўладзе. Хочаш друкаваць перадвыбарныя лістоўкі і плакаты, калі ласка, але за свае грошы. Бясплатна дадуць коратка выступіць кандыдатам у дэпутаты толькі па мясцовым радыё.

Характэрна, што з самага пачатку ЦВК Беларусі не чакае вялікай актыўнасці як саміх выбаршчыкаў, так і апазіцыйных палітычных партый. Беларускі лідар рыхтаваць адначасова з мясцовымі выбарамі правядзенне яшчэ і рэферэндуму не даручыў. Але Л. Ярмошына не выключыла прызначэнне ў апошні момант такога плебісцыту грамадзян. На мясцовыя выбары ў Беларусі не будуць запрашаць міжнародных назіральнікаў. Упор зробяць на нацыянальнае назіранне за выбарамі, але каб захаваць станоўчы вобраз "сінявокай рэспублікі", усім акрэдытаваным замежным дыпламатам будзе можна на кароткі тэрмін паназіраць за ходам падрыхтоўкі і правядзення гэтых выбараў.

Сур'ёзных падстаў уладам хвалявацца за вынікі мясцовых выбараў проста няма. Эканоміка пакрыху расце, хоць большасць электарату не атрымае да канца года абяцаных 1000 рублёў зарплаты. Абстаноўка ў Беларусі спакойная, бо і камуналка з новага года падрасце толькі на 5 долараў. За рысай беднасці ў нас пражывае меней 6 % насельніцтва, гэта вам не Расія, дзе канцы з канцамі не могуць звесці 23 млн. грамадзян. Сёлета нават колькасць стратных гаспадарак на вёсцы знізілася да 184 (13 % ад агульнай колькасці), а летась іх было амаль паўтысячы. У глыбінцы заўсёды галасавалі найбольш актыўна, так будзе і на гэты раз, выбары пройдуць, як патрэбна. А вось праз некалькі наступных гадоў большасць з нас не ўспомніць, хто ў канкрэтнай акрузе быў выбраны дэпутатам мясцовага ўзроўню.

## Дзень за днём

**На саміце "Усходняга партнёрства" прынялі Праграму супрацоўніцтва Беларусі і ЕС. Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў пройдуць 18 лютага 2018 года. Ядзерныя адыходы з БелАЭС будуць адпраўляць у Расію, але пасля 10 гадоў захоўвання на станцыі. Беларусы сталі меней прысылаць грашовых пераводаў з-за граніцы. Амаль 100 тысяч беларусаў атрымалі карты паляка. З-за вымірання глыбінкі за 2 апошнія гады закрылася 500 магазінаў Белспажыўсаюза. "Дарожны падатак" дазволяць аплочваць беларусам паэтапна і не за цэлы год. На абноўленым стадыёне "Дынама" ў Мінску пройдзе ў 2019 годзе лёгкаатлетычны матч Еўропа-ЗША.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** З-за палітычных, юрыдычных спрэчак аб праекце "Паўночны паток -2" Еўракамісія прапанавала змяніць заканадаўства для бяспекі паставак у Польшчу, Балтыю.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Т. Мэй абвінавачвала Расію ў масавых умяшаннях у выбары, стварэнні фэйкавых навін, такія дзеянні Крамля пагражаюць міжнароднаму парадку.

**Іспанія.** Міністр абароны і глава МЗС паведамілі аб умяшанні груп з РФ і Венесуэлы ў крызіс у Каталоніі з мэтай дэстабілізацыі іспанскай дзяржавы праз сацсеткі і сайты.

**Францыя.** Вучоныя краіны ўслед за нямецкімі заявілі, што аварыя на адным з цэнтраў перапрацоўкі ядзернага паліва на Урале стала крыніцай шкоднага воблака над Еўропай.

**Сірыя.** Праваабаронцы Amnesty абвінавацілі рэжым Б. Асада ў асадзе гарадоў і прымусовым перасяленні людзей, запатрабавалі ад ААН расследваць падобнае ў Алеппа.

**Сербія.** На сустрэчы ў Белградзе спецпрадстаўнік ЗША па Украіне К. Волкер і памочнік прэзідэнта Расіі У. Суркоў зноў не дамовіліся аб уводзе на Данбас міратворчай місіі ААН.

**Расія.** З-за абвастрэння адносін з Захадам у РФ за 3 кварталы года, як паведаміла газета "Ведомости", збанкрутавалі яшчэ 3227 неэфектыўных прадпрыемстваў і кампаній.

**Малдова.** Прарасійскі прэзідэнт І. Дадон заявіў, што жыхарам Прыднястроўя нерэальна атрымаць незалежнасць ці ўвайсці ў склад Расіі, у нас павінна быць агульная дзяржава.

**Венесуэла.** Услед за ЗША санкцыі супраць краіны і яе кіраўніцтва ўвёў аднагалосна савет міністраў замежных спраў ЕС за "парушэнні прынцыпаў дэмакратыі і свабоды выбару".

**Ізраіль.** У ходзе спецаперацыі ваенныя знішчылі разам з 12 баевікамі падземны тунель на граніцы з сектарам Газа, паабяцалі поўнасцю ліквідаваць іх групоўку "Ісламскі джыхад".

**Іран.** Паніку сярод насельніцтва выклікаў магутны землятрус на поўначы краіны на граніцы з Іракам, загінула больш 450 чалавек, шмат разбурана, расце колькасць ахвяр.

**Германія.** Французская група кампаній Peuqeot Citroen дазволілі свайму нямецкаму філіялу Opel прадаваць яго мадэлі аўтамабіляў не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце.

**Расія.** Мастацкі кіраўнік тэатра "Сатырыкон" К. Райкін зноў звярнуўся да грамадскасці паставіць на месца міністра культуры РФ У. Мядзінскага, які рэгулярна помсціць тэатру.

**Латвія.** Пасля цырымоніі развітання ў клініцы Масквы, дзе памёр у 68 гадоў пісьменнік-сатырык М. Задорнаў, цела па яго просьбе даставілі ў краіну і пахавалі побач з яго бацькам.

**Швейцарыя.** Спецыялісты сусветнага антыдопінгавага агентства WADA атрымалі базу дадзеных аб шматлікіх махінацыях зборнай Расіі дзеля "бруднай" перамогі ў Сочы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Перамовы аб новых крэдытах для Беларусі замарожаны, як пацвердзіў глава місіі МВФ П. Долман, з-за рознагалоссяў па рэформе дзяржсектару, сацабароне, тарыфаў ЖКГ.

**Барысаў.** Пасля гібелі салдата ў 3-й вучэбнай школе ў Пячах пачалі змяняць склад сяржантаў, тых, хто не затрыманы, адпраўляюць служыць у іншыя ваенныя часці краіны.

**Пінск.** Маці і блізкія загінулага салдата не паверылі, што затрыманы ў Пячах "прыдуркаваты сяржант", які знайшоў яго цела, мог прызнацца ў забойстве саслужыўца.

**Магілёў.** Пасля забароны экспарту ў Расію глава вобласці вырашыў ліквідаваць банкрута - ААТ "Магілёўрыба", яго 15 снежня закрые поўнасцю абласны Эканамічны суд.

**Мінск.** Саюзныя адносіны паміж Мінскам і Масквой, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, да Крыма і пасля падзей у Крыме – гэта зусім розныя рэчы, як і знешнепалітычныя інтарэсы.

**ЖданоВічы.** На новы Рэспубліканскі медцэнтр пайшло 100 млн. еўра і 2 гады будаўніцтва, здачу клінікі ля водасховішча Дразды ў эксплуатацыю прызначылі на 31 снежня

**Слуцк.** Райаддзелміліцыі завёў крымінальную справу за псаванне маёмасці і пачаў шукаць чалавека, які абліў чырвонай фарбай помнік Леніну ў цэнтры горада.

**Брэст.** Пасля выяўлення ў цэху раніцай скрыні з вучэбнымі ўзрывальнікамі з мясцовага смеццеперапрацоўчага завода эвакуіравалі 45 работнікаў, сюды прыбылі сапёры.

**Магілёў.** Паблізу горада пад вечар у вёсцы Межыскетні загарэлася птушкаферма філіяла кампаніі "Сервалюкс", у агні загінула каля 2 тысяч маладняку куранят ва ўзросце 3 дні.

**Свіслач.** На чыгуначнай станцыі аператыўна затрымалі 53-гадовага валацугу, які на тэрыторы раёна згвалтаваў дзвюх пажылых пенсіянерак, забраў у іх грошы і сышоў.

**Лунінец.** Суд раёна пакараў 5 гадамі калоніі-пасялення жанчыну, прадаўца магазіна з пасёлка Мікашэвічы, якая на падпітку збіла насмерць вясковага веласіпедыста 44 гадоў.

**Мазыр.** У выніку нападзення на людзей шалёнай лісы пацярпела ад яе ўкусаў 9 чалавек, з іх іх трое дзяцей, усіх іх прыйшлося шпіталізаваць на лячэнне ў бальніцу.

**Мінск.** На пабудаваным у 1983 годзе і закрытым зараз для эксплуатацыі аўтавакзале "Усходні" вырашылі правесці рэканструкцыю і стварыць гарадскі выставачны цэнтр.

**Магілёў.** Ноччу ў выніку пажару ў вёсцы Ліпец загінулі дачка гаспадыні дома з 2-гадовым унукам і пляменніца з мужам, якія знаходзіліся ў гасцях, агонь знішчыў таксама хлеў.

**Смалявічы.** Футбольная каманда з невялікага райцэнтра заваявала права гуляць у вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі, туды прабіўся і паўаматарскі "Прамень" (Мінск).

## Пажарныя, санітарна-эпідэміялагічныя патрабаванні да бізнесу ў Беларусі спрашчаюцца на 90%



■ Кар. БЕЛТА

**Пажарныя, санітарна-эпідэміялагічныя патрабаванні да бізнесу ў Беларусі спрашчаюцца на 90%. Пра гэта 26 лістапада ў эфіры тэлеканала АНТ паведаміў кіраўнік Апарату Савета Міністраў, старшыня Савета па развіцці прадпрымальніцтва Аляксандр Турчын, каментуючы дэкрэт №7 ад 23 лістапада 2017 года «Аб развіцці прадпрымальніцтва», паведамляе БЕЛТА**

Дэкрэтам максімальна сістэматызаваны і скарочаны шэраг патрабаванняў да бізнесу. Колькасць тых, што тычацца пажарнай бяспекі, скарацілася з больш чым 500 да крыху больш за 50. Санітарных раней было каля 1,1 тыс., цяпер застаецца прыкладна 100. «Сёння практычна на 90% спрашчаецца гэтая сфера», - сказаў Аляксандр Турчын. Старшыня Савета адзначыў, што нормы дэкрэта спрашчаюць умовы вядзення бізнесу, адначасова павышаючы адказнасць яго ўладальнікаў за дзейнасць прадпрыемства, арганізацыі. «Гэта значыць тыя сферы, з якіх сыходзіць дзяржава ў рэгуляванні, - гэта ўжо зона адказнасці, перш за ўсё кіраўніка», - дадаў ён. Як паведамлялася, дэкрэт, які з'яўляецца ключавым дакументам з пакета нарматыўных прававых актаў па паляпшэнні бізнес-клімату ў краіне, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў 23 лістапада. Дакумент прадугледжвае кардынальнае змяненне механізмаў узаемадзеяння дзяржаўных органаў і бізнесу, мінімізуе ўмяшанне службовых асобаў у працу суб'ектаў гаспадарання і ўзмацняе механізмы самарэгулявання бізнесу, яго адказнасць за сваю працу перад грамадствам. Пры гэтым захоўваецца мінімальна неабходны ўзровень кантролю з боку дзяржавы. Для дасягнення гэтых мэтаў ўводзіцца паведамляльны парадак ажыццяўлення найбольш распаўсюджаных відаў эканамічнай дзейнасці: бытавыя, турыстычныя, сацыяльныя паслугі, дзейнасць у сферы гандлю і грамадскага харчавання, перавозак пасажыраў і багажу, вытворчасць прадукцыі, будматэрыялаў і іншыя. Максімальна ліквідуюцца адміністрацыйныя бар'еры, звязаныя з наяўнасцю складаных і працяглых працэдур, атрыманнем вялікай колькасці даведак, узгадненняў і іншай дазвольнай дакументацыі. Адначасова дэкрэт устанаўлівае адміністрацыйную адказнасць кіраўніка за забеспячэнне нармальнай працы прадпрыемства. У прыватнасці, за непрыняцце ім неабходных мер па належнай арганізацыі дзейнасці прадпрыемства, якое пацягнула шкодныя наступствы, калі няма прыкмет злачынства ці іншага адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжаны штраф ад 10 да 200 базавых велічынь.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Расія забараніла ўвоз прадукцыі з "Віцебскрыбы" і з "Белрыбы" за незаконны ўвоз раней у РФ замарожанай неапрацаванай рыбы з Нарвегіі, Фінляндыі і Англіі.

**Орша.** З рабочай паездкай наведаў рэгіён прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў, пабываў у РПУП "Вусцэ", на ААТ "Тэхніка сувязі", на двух заводах і на новым корпусе гарбальніцы.

**Віцебск.** Суд у закрытым рэжыме пакараў за сутэнёрства 39-гадовага бацюшку з Расіі М. Кірэева 5 гадамі і 6 месяцамі турмы з канфіскацыяй маёмасці, сваю віну ён не прызнаў.

**Мёры.** Падчас візіту польскай дэлегацыі раён падпісаў Дагавор аб партнёрскім супрацоўніцтве з горадам і гмінай Гонёндз Падляскага ваяводства ў некалькіх праектах.

**Наваполацк.** Работнікі ААТ "Нафтан" падчас "прамой лініі" папрасілі главу нафтаграда Д. Дзямідава перанесці пачатак заняткаў у гарадскіх школах з 9.00 на 8.30 гадзін.

**Віцебск.** На аднаўленне разбуранага камуністамі ў 1961 годзе велічнага касцёла св. А. Падуанскага ля ратушы неабходна звыш 2 млн. долараўі яшчэ 200 тысяч долараў– на праект.

**Полацк.** Боскую літургію ў Сафійскім саборы з нагоды 1025-годдзя Полацкай епархіі адслужыў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Павел.

**Браслаў.** Генпракуратура Беларусі завяршыла следства па справе крушэння летась летам гідрасамалёта з гібеллю пасажыра, яе разгледзяць у Віцебскім абласным судзе.

**Талачын.** Вечарам на трасе М1 24-гадовы вадзіцель з Віцебскага раёна вылецеў на сустрэчную паласу і загінуў у ДТЗ, фура сутыкнулася потым яшчэ з мікрааўтобусам.

**Паставы.** Падчас спецыялізаваных работ асобны пошукавы батальён Міністэрства абароны Беларусі ля вёскі Цёплыя выявіў новае пахаванне воінаў I сусветнай вайны.

**Глыбокае.** Каля 7 гадзін вечара загарэўся жылы дом ў вёсцы Вераб'і, агонь знішчыў дах, сцены і маёмасць 38-гадовай жанчыны, пазней такі пажар адбыўся ў вёсцы Палавіцы.

**Полацк.** За сістэматычныя крадзяжы і хабар з 2013-га па май 2016 года больш 20 разоў суд пакараў былога дырэктара Ветрынскага ЖКГ 3,5 гадамі пазбаўлення волі.

**Орша.** Вечарам патрапіла пад машыну і трагічна на трасе М1 загінула 45-гадовая суддзя Аршанскага суда Т. Рыбакова, кіроўцу пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Лепель.** Другі год запар мясцовая каманда ФК "Лепель" заваявала званне чэмпіёна Віцебскай вобласці па футболе, сёлета ў гэтым турніры ўдзельнічала 14 клубаў.

**Віцебск.** На чэмпіянаце свету па скачках на батуце ў Балгарыі алімпійскі чэмпіён Уладзіслаў Ганчароў заваяваў "золата" з Алегам Рабцавым у сінхронных парах.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Не ведаў, забыўся, нічога не задавалі – неўзабаве гэта не будзе важкім аргументам для двоечніка

Не ведаў, забыўся, нічога не задавалі… Хто з нас не грашыў перад бацькамі ў школьныя гады! Аднак часы мінаюць так хутка, і ўжо твае дзеці кажуць: "Не ведала, забылася, нічога не задавалі!". Праходзіць яшчэ з дзясятак гадоў, і ўжо ўнучка перад маці грашыць: "Не ведала, забылася, нічога не задавалі!". Маці пачынае тэлефанаваць аднакласніцам, каб спраўдзіць, ці насамрэч "нічога не задавалі". Высвятляецца, усё ж задавалі! Тэлефануе класнаму кіраўніку, каб даведацца больш. Аказваецца, і да дошкі выклікалі, і адзнака не здавальняючая была, але паставіць яе не было куды, бо дзённік, тыпу таго, "дома забылася!"

«Адгаворка ў нашых вучняў, неўзабаве, можа быць толькі адна – няма ў нас дома інтэрнэту», — жартуюць настаўнікі.

У Глыбоцкай СШ №3, дзе вучыцца ўнучка аўтара, з яе слоў, ужо ўведзеныя электронныя журналы. Наступным годам плануецца ўвядзенне і электронных дзённікаў. Як гэта будзе выглядаць у дзеянні, пакуль што ніхто не ведае, бо, тыя, каго будзе датычыць гэтае нававядзенне, – вучні, бацькі, настаўнікі – не маюць практычнага досведу.

Аднак дзесьці, напрыклад, у сталіцы краіны, у тамтэйшых школах, ужо тры гады як дзейнічаюць электронныя журналы і электронныя дзённікі. Разгледзім гэта на прыкладзе 40-й гімназіі Мінска.

Адгаворкі ў стылі «не ведаў, што задалі» у 40-й гімназіі Мінска ўжо не прымаюць. Трэці год тут працуюць з электроннымі дзённікамі. А з мінулага верасня тут зусім пазбавіліся ад папяровых дзённікаў — цяпер расклад, хатнія заданні і абвесткі публікуюцца на сайце школы. Тры гады гімназія ўдзельнічала ў эксперыменце з электроннымі дзённікамі. У 2015 годзе Міністэрства адукацыі распрацавала метадычныя рэкамендацыі, і электронныя дзённікі дазволілі весці без звычайных. Старыя дзённікі тут цяпер называюць «папяровымі аналагамі». «Пераходзілі не вельмі лёгка, так як змяняць стэрэатыпы заўсёды няпроста, — кажа дырэктар гімназіі Ігар Бабкоў. — Але я ўпэўнены: каб навучаць дзяцей, настаўнікі самі павінны пастаянна вучыцца». Электронны дзённік — гэта, па сутнасці, сацыяльная сетка з рознымі адміністратарскімі правамі. У вучняў свае профілі, настаўнікаў і бацькоў — свае. Настаўнік запісвае хатняе заданне, і яго бачаць і вучні, і бацькі. Кожны тыдзень бацькі яшчэ павінны ставіць электронны подпіс у электронным дзённіку — як і раней. «Мы не сумуем па папяровых дзённіках, — кажа маці вучня 40-й гімназіі Алена Торлапава. — Нашы дзеці ідуць у нагу з часам, і мы хочам адпавядаць сваім дзецям». Настаўнікам прыйшлося выдаткаваць час на тое, каб вывучыць новую сістэму. Затое цяпер справаздачы пасля кожнай чвэрці, якія раней складалі ўручную з калькулятарам на працягу гадзіны, рыхтуюцца аўтаматычна. «Збіраецца інфармацыя, і выводзіцца сярэдні бал, і мы бачым рэйтынг вучня, — адзначае настаўнік хіміі і класны кіраўнік Алена Кавешнікава. — Дастаткова націснуць адну кнопку». Сёння электронныя дзённікі і журналы ў Беларусі вядуць 2398 школ. Для гэтага яны павінны быць зарэгістраванымі на сайце ***schools.by.***




– Не ведаю, пакуль, як гэта будзе выглядаць на практыцы. Убачым! Але я рада, што рэальную сітуацыю з навучаннем майго дзіцяці ў школе можна адсочваць он-лайн. Гэта будзе дысцыплінаваць вучняў! – адказала аўтару адна нашая супрацоўніца, наконт яе стаўлення да ўвядзення электронных дзённікаў.

# Каталіцкія біскупы скіравалі ліст Лукашэнку з просьбай зрабіць 1 лістапада выхадным днём

**Біскупы Беларусі падтрымалі ініцыятыву каталіцкіх вернікаў усталяваць выхадны дзень для ўшанавання памяці памерлых. Пытанне было абмеркавана на пленарным пасяджэнні епіскапату 21 лістапада.**

Ад імя Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і па яе даручэнні адмысловы ліст Аляксандру Лукашэнку накіраваў старшыня епіскапату Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Пра гэта іерарх паведаміў у каментарыі Catholic.by. Паводле яго слоў, у многіх краінах свету 1 лістапада з'яўляецца выхадным днём.

«1 лістапада Каталіцкі Касцёл ва ўсім свеце адзначае ўрачыстасць Усіх Святых. У гэты дзень мы таксама наведваем могілкі, і па традыцыі ўжо вечарам гэтага дня набажэнствы цэлебруюцца ў інтэнцыі памерлых, вельмі часта — на могілках», — адзначыў арцыбіскуп Кандрусевіч.

Іерарх дадаў, што ў шэрагу краін свету, дзе жывуць каталікі і пратэстанты, 1 лістапада на дзяржаўным узроўні ўсталяваны выхадным днём і адпавядае касцёльнай традыцыі.

«Дзень усіх памерлых мы пачынаем адзначаць 1 лістапада. Калі гэты дзень будзе вольным, ён стане добрай нагодай памаліцца не толькі ў касцёле, але і на могілках. Разам з тым, гэта прывядзе да балансу з Праваслаўнай Царквой, дзе вернікі маюць выхадны дзень — Радаўніцу».

*nn.by*

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

# Паромная пераправа ў Дзісне – цікавостка, якую не адберуць ні Мёры, ні Глыбокае!

**На карце Беларусі адзначана больш за дзясятак паромных пераправаў. Толькі не вядома – ці ўсе яны сёння дзейсныя. Вядома, што ў Гомельскай вобласці – 4 паромныя пераправы: праз Прыпяць, Дняпро і Бярэзіну. З іх 2 у раёне Петрыкава – праз Прыпяць.**

Існуе паромная пераправа і ля Лунінца Брэсцкай вобласці, таксама праз Прыпяць. Як раз праз апошнюю паромную пераправу тры гады таму аўтару гэтых радкоў даводзілася дабірацца на іншы бераг Прыпяці, якую часта клічуць "Беларускай Амазонкай".

У Віцебскай вобласці – 2 паромныя пераправы праз Заходнюю Дзвіну: адна ў Дзісне, іншая ля Суража за Віцебскам. У Дзісне паром належыць дарожнікам, г.зн Мёрскаму ДРБУ-203, у Суражы – мясцоваму калгасу. Апошні паром курсіруе дзякуючы трактару "Беларус", які знаходзіцца на самім пароме, рухавік трактара і цягне трасы ад берага-да берага.

У мінулы чацвер Ігар Куніцкі, глыбачанін, які нарадзіўся ў Дзісне і якога чарговы раз дастала настальгія, прапанаваў аўтару вандроўку ў горад свайго дзяцінства.

Усё ж цікава, пераправіўшыся на іншы бераг Дзвіны, паглядзець, як выглядала г. Дзісна з іншага берага – вачамі савецкага пагранічніка. Па Дзвіне ж да 1939 г. і праходзіла дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і СССР.

Ды й, зрэшты, Дзісну варта наведаць хоць раз у жыцці, бо яна была сталіцай нашага павету, а старастам (па цяперашняму – старшынёй райвыканкама) быў аднойчы ніхто іншы, як Язэп Корсак.

На жаль, горад Дзісна сёння занепадае, аднак ад заняпаду Дзісны толькі выйграла Глыбокае, якое пры паляках стала сталіцай Дзісненскага павету і набыло статус горада, ад занепаду Дзісны за саветамі выйгралі і Мёры, бо сталі замест Дзісны раённым цэнтрам і горадам. Аднак у Дзісне засталася адна цікавостка, гэта – паромная пераправа, якую ў яе не адберуць ніколі ні Мёры, ні Глыбокае.




■ А. В. Сіўко, *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

# Бяспечнае выкарыстанне электраабагравальнікаў

Пры куплі ацяпляльнага прыбора вельмі важна, каб ён не толькі добра ацяпляў памяшканне, але і быў бы бяспечны ў эксплуатацыі! Большасць сучасных абагравальнікаў абсталяваныя адмысловымі ахоўнымі сістэмамі, якія папераджаюць негатыўныя наступствы няправільнага ці неасцярожнага выкарыстання. Тым не менш, нагадаць аб мерах засцярогі ніколі не лішне! У пазбяганне непрыемнасцяў і няшчасных выпадкаў пры выкарыстанні электрычных абагравальнікаў, трэба прытрымлівацца наступных правілаў:

o Ні ў якім выпадку не ўсталёўваць абагравальнік на мэблю, тым больш, мяккую! Ставіць прыбор варта на падлогу. У выпадку з канвектарамі, іх можна мацаваць на спецыяльных падстаўках на невялікай адлегласці ад падлогі.

o Не змяшчайце сеткавыя правады абагравальніка пад дываны і іншыя пакрыцці. Не стаўце цяжкія прадметы на правады (напрыклад, мэблю), інакш абагравальнік можа перагрэцца і стаць прычынай пажару!

o Пераканайцеся, што штэкер устаўлены ў разетку шчыльна! Інакш ён можа перагрэцца. Уважліва прачытайце інструкцыю па эксплуатацыі абагравальніка, а менавіта раздзел дапушчальных параметраў току для сілкавання прыбора. Пераканайцеся, што ён падыходзіць па гэтых параметрах.

o Не выкарыстоўвайце абагравальнік ў памяшканні з лака-фарбавымі матэрыяламі, растваральнікамі і іншымі вогненебяспечнымі вадкасцямі. Таксама нельга ўсталёўваць электраабагравальнік у захламленых і засмечаных памяшканнях.

o Сачыце за станам ацяпляльнага прыбора: своечасова рамантуйце і замяняйце дэталі, калі яны выйшлі з ладу. Змяняйце засцерагальнікі, не надзейныя або дэфармаваныя штэкеры. Памятайце, што карыстацца няспраўным абагравальнікам ні ў якім выпадку нельга!

**Напярэдадні халадоў усе вышэй пералічаныя меры засцярогі асабліва актуальныя!**



**Франц Хоміч,**
*краязнаўца, м. Дунілавічы*

# Каменьчыкі пад чорным помнікам

**Працяг.**
*Пачатак у № 47 (920) за 23 лістапада 2017 года.*

### За польскім часам

**Вялікае значэнне ў жыцці яўрэйскага мястэчка адыгрывалі органы самакіравання. Так было і з пытаннем адукацыі дзяцей. Яўрэі абралі камітэт з шасці чалавек, якому даручылі арганізаваць школу. Былі запрошаны з Вільні два настаўнікі. Прозвішча аднаго было Розэнфельд, другога звалі Саламон. Заняткі праходзілі ў памяшканні сінагогі. Усе дзеці былі падзелены на 4 класы.**

Адкрыццё школы моцна паўплывала на агульны настрой у мястэчку. На вуліцах можна было ўбачыць вясёлых і ўсмешлівых дзяцей, а дарослыя радаваліся за іх. Пры школе пачала актыўна дзейнічаць бібліятэка.

Працаваць настаўнікам было цяжка. Большасць дзяцей — пераросткі, не хапала грашовых сродкаў. У пару паспела дапамога з Паўночнай Амерыкі. З Вільна прыбыў транспарт з адзеннем і абуткам. У школе арганізавалі бясплатныя сняданкі. Праўда, бедныя дзеці саромеліся садзіцца за стол. Але калі ўбачылі, што некаторыя багатыя дзеці і настаўнікі снедаюць, дык далучыліся да іх.

Ўканцы навучальнага года настаўнікі з дзецьмі арганізавалі маляўнічы спектакль, запрасілі бацькоў. Тыя вельмі ганарыліся поспехамі сваіх дзяцей.

Пасля заканчэння навучальнага года школьнае пытанне стала абмяркоўвацца зноў. Выспела думка пра будаўніцтва асобнага будынка школы (folkschule). Зноўку быў абраны камітэт. Неўзабаве выбралі пустку каля ракі, непадалёк ад грамадскай лазні. Сродкі, якія меў камітэт, былі мізэрнымі. Але ўсё ж удалося пабудаваць будынак з двух класных пакояў. Гэта дазволіла адкрыць вячэрнія курсы для дарослых, запрасілі яшчэ двух настаўнікаў. Выкладаліся матэматыка, яўрэйская літаратура, польская мова. Вечарамі ў школе збіраліся людзі, чыталі газеты, абмяркоўвалі навіны, слухалі лекцыі; праводзіліся грамадскія чытанні.

Урэшце рэшт і гэты будынак не змог змясціць усіх жадаючых вучыцца. У трэці раз паўстала пытанне пра будаўніцтва. Грошай патрабавалася шмат. Вырашылі звярнуцца да землякоў, якія эмігрыравалі ў Паўночную Амерыку — і атрымалі некаторую дапамогу. Не маючы магчымасці ўнесці грошы, асобныя члены абшчыны працавалі на будаўніцтве. Размясціўся новы будынак ў раёне цяперашніх калгасных зернясховішчаў.

У ім былі створаны ўмовы і для работы драматычнага гуртка. Пастаноўка першай жа п'есы была высока ўхвалена знаўцамі-тэатраламі. Прыбытак ад спектакляў ішоў на фінансаванне школы. Таксама пры школе быў створаны аркестр з шасці музыкантаў, які іграў на танцавальных вечарах, вяселлях, а даходы папаўнялі школьную касу.



Дунілавічы. Сям'я Фрыдманаў, 1937 год.

Акрамя школы, у мястэчку дзейнічала невялікая прыватная бальніца Вэбэра. У вялікім двухпавярховым будынку размяшчалася пошта. Працавалі рамеснікі, у прыватнасці, тры кавалі. Было шмат магазінаў. Напрыклад, на месцы цяперашняга комплекснага прыёмнага пункта знаходзіўся «жалезны» магазін, у якім можна было набыць любыя вырабы з металу — ад іголкі да малатарні. Там, дзе цяпер міні-рынак, знаходзіўся двухпавярховы магазін-швейная майстэрня Гардона. Можна было купіць ці пашыць любое адзенне. Абсалютная большасць гандлёвых месцаў належала яўрэям.

Даволі шмат увагі ўдзялялася добраўпарадкаванню. Кожная вуліца была абсаджана дрэвамі пэўнай пароды — ліпамі, ясенямі, каштанамі і інш. Некаторыя з іх захаваліся да нашых дзён.

У канцы цяперашняй вуліцы Асяненкі дзейнічала дзяржаўная бальніца. У тым жа раёне знаходзіўся суд. А вось участак паліцыі размяшчаўся па вуліцы Горкага, у савецкі час тут былі школьныя памяшканні.

У 1934 годзе ў мястэчку адбылася сельскагаспадарчая выстава, пра якую пісалі спецыялізаваныя польскія выданні.

Важным звяном ў жыцці яўрэйскай абшчыны быў кірмаш. Кожны аўторак у Дунілавічах праходзілі таргі паміж яўрэямі і сялянамі. Ужо на пад'ездзе да кірмашу прадпрымальныя прадаўцы настойліва запрашалі ў свае крамы. Нярэдка цэны ў некалькі разоў завышаліся, але гэта рынак — таргуйся. Здаралася, што прадавец паказваў адну тканіну, а адмерваў іншую, дзешавейшую. Выяўлялася гэта потым, у шаўца. Прапаноўваліся розныя льготы: скідкі, крэдыт, абы толькі прымусіць селяніна нешта прыдбаць. Тым часам скупшчыкі-аптавікі сялянскай прадукцыі часта згаворваліся і ўстанаўлівалі заведама нізкія цэны. Але, паўтаруся, гэта кірмаш, як кажуць, не страляй варон!..

Некаторыя віды гандлю былі ў руках хрысціян, напрыклад, гандаль мясам. Прадавалі яго не яўрэі: Салонка, Мажэйка, Германовіч.

Па навакольных вёсках на падводзе вандраваў з дробным таварам Шлёма — так прывыклі яго зваць усе сяляне. Апрануты быў вельмі бедна: латка на латцы. Любіў паўтараць: «Дай мне кошачак бульбы, а я табе іголачак дам». На самай справе быў чалавекам зусім не бедным.

Асвятляліся Дунілавічы электрычнасцю. Працавалі дзве электрастанцыі — гідра- і цеплавая. Дзейнічалі дзве вадзяныя калонкі: у цэнтры мястэчка і ў раёне дзяржбальніцы.

Тратуары былі вымашчаны пліткай, вуліцы выбрукаваны камнем. Назвы большасці вуліц адпавядалі напрамку дарог — Віленская, Глыбоцкая, Пятроўская, Ясненская і інш.

У мястэчку існавала ўліўневая каналізацыя.

Большасць яўрэяў былі рэлігіёзнымі людзьмі і прытрымліваліся адпаведных звычаяў, напрыклад, забароны на любую работу ў суботу. Як расказваў мне адзін мясцовы жыхар, дровы ў рускую печ яўрэі складалі ў пятніцу, а падпаліць іх у суботу наймалі хрысціян.

У мястэчку дзейнічалі тры сінагогі.

Пасля смерці ў 1935 годзе Юзафа Пілсудскага становішча яўрэяў пагоршылася. Да ўлады ў Польшы прыйшлі па-нацыску настроеныя ваенныя, і паступова праследаванне, якое існавала падчас Расіі, пачало аднаўляцца. Увялі падатак на кашэрны забой жывёлы, абмежавалі прыём яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, пачасціліся выпадкі нападу членаў фашысцкіх моладзевых арганізацый на яўрэйскіх школьнікаў.

Вось так, у турботах і клопатах, надышоў год 1939.

***Заканчэнне будзе.***

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Прыйшоў час збіраць зімовыя апенькі

Неяк, ужо даўнавата, набыла жонка кансерваваныя грыбы. Шкляны слоік – вузкі і даўгаваты, жоўта-чырвоныя апетытныя грыбочкі там. Імпартныя, не па-нашаму напісана, але надпіс па-руску ўсё ж быў – "Опята". Ведаючы добра і летнія, і восеньскія апенькі, задаўся пытаннем: што гэта за апенькі ў шкляным слоіку, што такіх не бачыў і не збіраў. Мо зноў кітайцы нам, беларусам, нейкую "фігню" падсунулі? Аднак грыбы гэтыя мы з'елі. Усё нармальна.



Праз колькі часу патэлефанаваў адзін наш чытач з Паставаў, колішні глыбачанін. Ён параіў мне ў снежні ісці збіраць ... зімовыя апенькі. Нават указаў месцы, у які лясок, побач з Глыбокім, заглянуць. Сам ён іх там некалі збіраў. Аўтар гэтых радкоў пачаў гартаць даведнікі, штудзіраваць інтэрнэт, што за грыб такі – зімовыя апенькі? Аказваецца, хоць ні разу іх не збіраў, аднак ёў. Так, так! Такія, як купленыя ў слоіку!

Натуральна, можна было б паехаць хоць на ровары ў бліжэйшы лясок, пашукаць такія грыбы, але ж грыбоў і так з лета-восені назбірана мноства: пасолена, намарынавана, пасушана. А іх, штo, выкідваць тады, калі грыбы можна збіраць ці не ўсю зіму? А тут іду аднойчы ў канцы лістапада – пачатку снежня па набярэжнай возера Кагальнае. Гляджу, на двух вербах ніцых, наўпрост на ствале дрэва – прыгожыя чырванаватыя грыбочкі! Так, без сумневу, гэта – зімовыя апенькі!

Зімовыя апенькі (flammulina velutipes, або фламуліна аксамітаножкавая) – шапачкавыя грыбы, якія адносяцца да сямейства Радоўкавыя. Дадзеныя пладовыя целы вельмі цэняцца сярод многіх грыбнікоў, бо яны валодаюць прыемным і пяшчотным смакам, таму шырока выкарыстоўваюцца ў кулінарыі. Яны выдатна падыходзяць для такіх працэсаў як марынаванне і саленне. З іх рыхтуюць таксама розныя супы і соусы. Аднак некаторыя аддаюць перавагу немецъ справу з зімовымі апенькамі, так як у працэсе гатавання яны становяцца слізкімі, хоць на смакавыя якасці стравы дадзеная асаблівасць ніяк не ўплывае.

На Захадзе часцей за ўсё сустракаюцца пад японскай назвай «энакітакэ». Капялюшык: круглява-выпуклы, з узростам набывае плоскую форму. Дыяметр ад 2 да 8 см, аднак некаторыя буйныя асобнікі могуць дасягаць 10 і нават 12 см. Колер шапачкі вар'іруецца ад жоўтага або мядовага да памяранцава-карычневага. У большасці выпадкаў краі капялюшыкаў маюць больш светлае адценне, чым цэнтральная зона. Слізістая, гладкая, пры невялікім высыханні набывае глянцавы выгляд.

**Распаўсюд:** зімовыя апенькі растуць у паўночнай умеранай зоне, з'яўляючыся грыбом-паразітам. Аддае перавагу пням, ламаччу, жывым і пашкоджаным ствалам.

Часцей за ўсё фламуліну (зімовыя апенькі) можна сустрэць на лісцевых пародах дрэў: вярба, таполя, асіна, вяз, клён і інш. На іглічных дрэвах расце значна радзей, часам выбірае мёртвую драўніну.

**Ужыванне:** ужываецца ў кулінарыі і медыцыне. Іх марынуюць, соляць, смажаць, робяць з іх ікру, супы і соусы. У маладых асобнікаў выдаляюць толькі ніжнюю частку ножкі, у спелых бяруць толькі капялюшыкі. Вялікай папулярнасцю грыбы карыстаюцца ў японскай кухні. У медыцыне ўжываецца для лячэння і прафілактыкі дабраякасных пухлін – фібромы, міемы, адэномы, мастапатыі і іншых відаў анкалогіі. Выкарыстоўваюць пры тромбафлебіце і падвышанай згушчальнасці крыві.

